КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Якія гульні ні глядзі, усё залежыць ад суддзі

У футбольным матчы першай лігі паміж камандамі «НФК» і «Ліда» суддзя спачатку залічыў гол, затым адмяніў, а пасля таго, як аўтар гола стаў перад ім на калені, зноў зафіксаваў узяцце варот.

Я ў розум ваш хачу закласці:
У нас такі чэмпіянат,
Такія там бушуюць страсці –
У еўракубках акурат!
Ці ўверсе нейкі клуб, ці ўнізе –
Убачыш розніцу хіба?
І нават не ў вышэйшай лізе
Ідзе заўзята барацьба!
І ў гэтым матчы футбалісты
(Я вам ні кроплі не маню!)
Паказвалі футбол іскрысты,
Як кажуць, «шчырую гульню».
Быў у гульцоў імпэт бясконцы.
Каго, прынамсі, ні вазьмі,
І форварды, і абаронцы
На полі «клаліся касцьмі».
«Лісты сухія» і падкаты,
Пасы, нібы ў Пеле, фінты…
Ну, словам, арсенал багаты,
Ва ўсякім разе не пусты.
Амаль што не футбол, а казка,
На полі весела было,
Ды толькі прыкрая няўвязка:
Нулі гарэлі на табло.
Біў па варотах раз двухсоты
Каманды слынны бамбардзір,
Ды вельмі вузкія вароты –
Пабольшыць бы вароты ўшыр.
Ён, бедачына, ледзь не плача –
Смяюцца людзі навакол.
І вось прыйшла нарэшце ўдача:
Удар шалёсткі, штанга, гол!
Няма сумнення ў бамбардзіра,
Што мяч палоску перасек.
Аднак з яго, прызнаем шчыра,
Фартуна
Учыніла здзек.
Няхай ты ледзь не бог на полі,
З якога боку ні глядзі,
Ды, як вядома, на футболе
Усё залежыць ад суддзі.
Ён «раздае» штрафныя ўдары
І можа выгнаць з поля вон,
І хай клянуць яго ахвяры,
Ды цар і бог на полі – ён.
Быў гол «жалезны»!
Сто працэнтаў!
Аднак суддзя, нібы назло,
Чамусьці не пайшоў да цэнтра,
Сказаў, што гола не было.
І хоць ты злыдню плюй у вочы,
Хоць ты чашы на плеху кол,
Ён прызнаваць ніяк не хоча,
Што форвардам забіты гол.
Каб разагнаць яго сумненні,
Спачатку ўпрошваў бамбардзір,
А потым… бухнуў на калені
Усіх заўзятараў кумір.
– Я гол забіў зусім законна! –
Ён, бедны, слёз стрымаць не мог,
Як быццам перад ім – ікона
Ці нават асабіста Бог.
Суддзя, вядома, з недаверам
На форварда глядзеў спярша
І выглядаў ранейшым зверам,
А потым дрыгнула душа:
«Дык ад мяне ж не трэба многа,
Каб гэты, так сказаць, арол
Мяне лічыў амаль за Бога…»
І аб'явіў рашуча:
– Гол!
Трыбуны не стагналі ледзьве.
– Суддзя, – крычалі, – родны, свой!
І хто-ніхто напраўду згледзеў
Німб у яго над галавой…

* * *

Футбол у нас у заняпадзе,
На жаль, няма «харошых ног».
Як ні круці, на далеглядзе
Не бачна нейкіх перамог.
Каб у наступных пакаленнях
Бразільцаў мы перамаглі,
Стаяць нам трэба на каленях,
Пакуль не ўзнікнуць мазалі…

ВОДГУК

# У хлусні кароткія ногі

Не магла не адгукнуцца на артыкул паважанага Міхася Скоблы «У чый звон звоніце, спадар Гайдук?», надрукаваны ў «Народнай Волі» за 3 верасня. Дзякуй яму за тое, што звярнуў увагу грамадскасці на хлусню ў школьных падручніках. Гісторык Я.Новік павінен патлумачыць, з якіх крыніц ён узяў інфармацыю пра тое, што беларускія школы пад акупацыяй мелі прафашысцкую скіраванасць. Хацелася б ведаць, дзе і ў якіх школах мелі месца апісаная Новікам «методыка». Здавалася б, найпрасцей немцам было ўкараняць «новы парадак» у адукацыйных установах Мінска. Але ж гэтага не назіралася, я – сведка.

Павінна сказаць (спадабаецца гэта каму ці не), што пры немцах у Мінску ўсё было па-беларуску: і газеты, і радыё, і вулічныя шыльды, і школы, і нават гарадская управа (даводзілася бываць там па асабістай справе).

І тое вяртанне да беларушчыны не было ініцыятывай немцаў, занятых бліцкрыгам на ўсходзе. Беларусізацыя адбылася дзякуючы беларускім патрыётам, якія працавалі ва ўправе. Гэтыя людзі вельмі моцна рызыкавалі, бо з немцамі не так проста было дамовіцца пра тое ж школьніцтва. Але ж неяк дамаўляліся, і ўжо 1 верасня 1941 года ў Мінску запрацавалі школы, адкрыліся бальніца, крамы і храмы. Хлеб, хоць па картках і з асцюкамі, на прылаўках быў бесперапынна.

У 1943 годзе ў горадзе стала не хапаць прадуктаў, пачаўся голад, людзей касіў тыф. І беларусы ва ўправе дамагліся ад немцаў дазволу, каб сяляне з заходніх абласцей прывозілі ў Мінск харчаванне, дзе мянялі яго на неабходныя рэчы. Гэта была вялікая дапамога. Тысячы мінчукоў былі ўратаваны ад галоднай смерці.

Я памятаю маладога падпольшчыка па прозвішчы Гало, які працаваў ва ўправе і за нейкую правіннасць быў расстраляны немцамі. А пасля вайны ўжо савецкая ўлада шукала «ворагаў народа» сярод тых, хто заставаўся ў акупаваным горадзе (бо супрацоўнічалі з фашыстамі!). Напрыклад, была арыштавана настаўніца нашай школы.

Не буду тут кранаць перажытых жахаў, гэта асобная тэма. Трохі раскажу пра сваё школьнае маленства. Я нарадзілася ў Мінску ў рускамоўнай сям'і. Увесну скончыла 1-ы клас савецкай рускамоўнай школы, а восенню таго ж года пайшла ў 2-і клас сталічнай СШ №35. Да гэтай пары помню, як першы ўрок пачаўся на незнаёмай мне мове. Настаўніца патлумачыла, што гэта наша родная беларуская мова і мы на ёй будзем вучыцца.

Падручнікаў не было, усё пісалі на дошцы, на ўроках чытання карысталіся старой кніжкай пра Бураціна, якую прынесла настаўніца. Кожны з нас па чарзе чытаў па-беларуску, а потым мы пераказвалі пачутае. Мова нам далася лёгка, і мы неўзабаве перайшлі на яе ў гутарках. Увогуле, у школе было чуваць толькі беларускую мову.

Так праляцеў навучальны год. У трэцім класе нам нарэшце выдалі першы падручнік. У ім змяшчалася навучальная праграма, дзе былі раздзелы па арыфметыцы, беларускім правапісе (граматыцы), старажытнай гісторыі Беларусі, спевах, беларускай літаратуры. Помню, мы вывучалі вершы Я.Купалы («Хлопчык і лётчык»), Я.Коласа («На ніцях белай павуціны прыводзяць восень павучкі…»), Ф.Багушэвіча («Чым то дзеіцца на свеце, што не роўна дзеле Бог…»), М.Багдановіча («У бубны дахаў вецер б'е…»). На ўроках гісторыі мы даведваліся, хто такія былі крывічы, дрыгавічы і радзімічы, гаварылі пра полацкага князя Рагвалода і яго дачку Рагнеду. На ўроках спеваў спявалі «Саўку ды Грышку» ды іншыя беларускія народныя песні.

Ніхто на ўроках не ўсхваляў Гітлера і яго рэжым і савецкую ўладу ніхто не ганьбіў. Ніякіх партрэтаў на сценах не вісела.

Неяк вясной нас бясплатна звадзілі ў тэатр, мы там паглядзелі спектакль «Лекар мімаволі», а зімой мы ўсім класам хадзілі паглядзець на Вадохрышча каля царквы.

Калі ў 1944 годзе Мінск быў вызвалены ад акупантаў, у школе адразу знікла беларуская мова. Давялося перавучвацца зноў на рускую, што не ўсім дзецям далося лёгка. Але беларуская мова засталася з намі на ўсё жыццё.

Прыкра, вельмі прыкра, што такія гісторыкі, як Я.Новік, імкнуцца праз падручнікі ўбіць у мазгі нашым дзецям свае выдумкі. Пра якое патрыятычнае выхаванне з такімі падручнікамі можа ісці гаворка? У хлусні кароткія ногі, на ёй далёка не зойдзеш.

**Ларыса ІСАКАВА.**

*Мінск.*

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Хто ж вас, калега Бушчык, зацкаваў?

Шаноўны Іосіф Паўлавіч!

Звярнуцца да Вас мяне вымушае інтэрв'ю, якое даў «Народнай Волі» сябра нашага творчага саюза Мікола Бушчык. Я не супраць таго, каб спадар Бушчык меў магчымасць вольна выказацца, як не аспрэчваю права газеты яго выказванні апублікаваць. Але ж нельга не зважаць на прыкрыя недакладнасці, а то і непрыхаваную хлусню, якіх у гэтым тэксце даволі шмат. Хачу падкрэсліць, што мая рэакцыя прадыктавана маімі службовымі абавязкамі.

Цяпер звернемся да канкрэтыкі названага інтэрв'ю. Чаго толькі вартае сцвярджэнне спадара Бушчыка, што яго, чые творы, аказваецца, у замежжы ўспрымаюцца як візітоўка Беларусі, кіраўніцтва ГА «Беларускі саюз мастакоў» настолькі заціснула і зацкавала, што бедны мастак мусіў кінуць-рынуць усё ды ратавацца ў правінцыі! Каб пераканацца, што гэта хлусня, дастаткова нават сёння зайсці ў нашы галерэі – «Мастацтва» і «Беларт» – ды пабачыць творы М.Бушчыка, дзе яны з'яўляюцца рэгулярна на працягу шматлікіх гадоў, не зазнаўшы ніякіх перашкод. А крыўдлівыя прэтэнзіі, што ў 2014 годзе ягоны трыпціх не быў дапушчаны на выставу, маўляў, з-за нейкай ці не палітычнай цэнзуры, таксама дужа некарэктныя і падманныя. Гэтыя прэтэнзіі абвяргаюцца вельмі проста: тая выстава – IV Біенале жывапісу, графікі і скульптуры – мела вельмі канкрэтны, зацверджаны Прэзідыумам ГА «БСМ», рэгламент. Да экспазіцыі прымаліся творы апошніх двух гадоў стварэння. Гэткі рэгламент існуе ва ўсіх біенале розных краін свету. Як бачым, спадар Бушчык тых правілаў не прызнае, бо прынёс на выставу карціны розных памераў, рознай стылістыкі, напісаныя ў розныя гады, значна раней, чым таго патрабаваў рэгламент Біенале. Заяўленыя карціны ні па якіх крытэрыях не маглі лічыцца трыпціхам, да таго ж паасобку тыя творы ўжо былі паказаны на іншых выставах. Трэба зазначыць, што мы, прафесіяналы, усе добра памятаем творы адзін аднаго, і для аргкамітэта – а гэта ўвесь Прэзідыум ГА «БСМ» (23 чалавекі) – не было ніякіх праблем заўважыць падман. Аднак жа, зважаючы на вельмі крыўдлівы характар нашага калегі, аргкамітэт біенале ўсё ж пайшоў на парушэнне свайго рэгламенту і два з трох заяўленых твораў нібыта трыпціха на тую выставу дапусціў. Як бачым, спадару Бушчыку дагадзіць цяжка, і ўсе яго крыўды ўпалі на Леаніда Хобатава, які на старонках Вашай газеты названы самым большым канфармістам у свеце. Ну-у, павесялілі!

Дасталося на «арэхі» і Уладзіміру Пракапцову, хоць спадар Бушчык, відаць, забыўся, што некалькі гадоў таму ягоная персанальная выстава ў Нацыянальным мастацкім музеі была.

Ну, а пра пагрозы нейкага фізічнага гвалту нават і гаварыць лішне.

Не заглыбляючыся ў аналіз іншых крыўдаў Бушчыка да нас ды яго шматлікіх жонак, хачу толькі прывесці некалькі прыкладаў нашага «ўціску» на асобу загнанага ў кут гаротніка. Гэтак, некалькі гадоў таму адпаведныя спецыялісты нашай арганізацыі заўважылі, што ў майстэрні Міколы Бушчыка цягам некалькіх гадоў электралічыльнік чамусьці не паказвае ніякіх зменлівых лічбаў. Высветлілася, што наш эканомны калега нейкім «левым» чынам падключыўся да электрасеткі ды карыстаўся ёй за кошт сваіх жа калег-суседзяў. Прадпрымальны, трэба сказаць, чалавек. Ратуючы аўтарытэт Бушчыка, мы прыхавалі гэты ганебны ўчынак, нават не прымяніўшы ніякіх матэрыяльных спагнанняў. І толькі сёння наш калега вымусіў мяне нагадаць яму пра той наш «уціск». Гэтак жа ён змушае мяне рабіць публічным і іншае прадпрымальніцкае свавольства. Так, нядаўна мы даведаліся, што Мікалай Бушчык ужо некалькі гадоў незаконна здае ўнаём творчую майстэрню, арандаваную ім у Саюза мастакоў. Гэта з'яўляецца вельмі істотным парушэннем як дамовы аб арэндзе, так і Статута ГА «БСМ». Прынцыпова важна і тое, што спадар Бушчык здаў нашу майстэрню чалавеку, які ніякіх адносін да нашай арганізацыі не мае, і гэта пры тым, што ў Беларускім саюзе мастакоў ёсць даволі вялікая чарга нашых сябраў на атрыманне творчых майстэрняў.

Мы пакуль што «заплюшчваем вочы» на гэтае свавольства, але хутка давядзецца зрэагаваць. І тады мы, напэўна ж, ізноў пачуем пра цкаванне беднага мастака, чые творы, паводле ягонай уласнай ацэнкі, з'яўляюцца візітоўкай Беларусі. Як бачым, сціпласці яму не пазычаць.

Аднак жа, пры ўсім гэтым чакаем новых твораў Міколы Бушчыка на нашых выставах. Творчага яму плёну і Божай дапамогі!

Ды ўсё ж хачу нагадаць нашаму калегу вельмі важнае палажэнне Статута ГА «БСМ»: «4.5. Сябры БСМ абавязаны … прытрымлівацца прафесійнай этыкі, норм агульначалавечай маралі, падтрымліваць аўтарытэт Беларускага саюза мастакоў».

**З павагаю – Рыгор СІТНІЦА, старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў».**

РЕЗОНАНС

# Я в плену исповеди…

Вот уже пятый день я в плену исповеди В.Перепёлкина-Киселёва «Песня без слов».

Пронзительная драма любви, не выдуманная в кабинетной тиши, а взятая целиком из реальной жизни.

Как все-таки трепетна и уязвима чистота любви в жестких реалиях жизни с ее принятой моралью и нормами поведения!

Какой закрученный жизнью сценарий, достойный пьесы, фильма!

Как много здесь поучительного для каждого из нас!

Дорогой Валентин! Мы с тобой люди одного поколения, в жизни у нас было полно озарений, ошибок, поисков. Я тебе очень благодарен.

Своим откровением ты разбередил и мою душу, заставил вспомнить прожитую жизнь, реалии которой спрессовались в один слоеный сгусток. И теперь вот перед рентгеном своей памяти я осмысливаю слой за слоем и заново проживаю те годы: и когда 10 июня 1944 г. я четырехлетним был найден солдатами на передовой в траншее под Витебском, и бесконечные 14 лет детдомовской жизни в России, долгий поиск отца и наконец возвращение к нему в Беларусь, и тернистый путь в стремлении стать художником.

Валентин! Нельзя не восхититься твоей трепетной любовью, чистотой души Наташи и мужским благородством ее мужа Олега. Ты пережил трудные, болезненные моменты жизни, и только преданность музыке спасала твою душу. Живи долго! Верится, что твое новое откровение проявится в музыке.

Дорогая редакция! Более 20 лет я являюсь Вашим подписчиком, еще с того смутного времени, когда для того, чтобы подписаться на нашу газету, приходилось ходить в банк с паспортом.

Вы наш родник Правды и Надежды. Ваш коллектив не дает нам впасть в отчаяние и уныние в это трудное время. Вы несете в общество Правду. И только правильный диагноз может вылечить человека и общество.

Здоровья всем Вам, энергии в трудах и благополучия в жизни!

**В.ВОЛЬНОВ, 79 лет, художник.**

*Витебск.*

СЕМЕЙНАЯ ИСТОРИЯ

# Встреча матери и дочери через 33 года разлуки



Моя сестра Катерина родилась в 1928 году. В 15 лет ее фашисты угнали на принудительные работы в Германию. Односельчане, попавшие на немецкие шахты и заводы, там и умерли. Но Катерину, а вместе с ней русскую девушку и украинку, определили в крестьянское хозяйство. Их освободили англичане и предложили различные варианты дальнейших действий, в том числе возвращение домой.

Русская быстро выбрала последний вариант и отправилась на Восток. Советские воины встретили ее «тепло», обозвали немецкой подстилкой, забрали чемодан с бельем (дескать, в сибирском лагере дадут казенное) и посадили за проволоку. Она быстро прозрела, ночью сняла с пальца колечко и отдала молодому охраннику, чтобы тот не «заметил» ее исчезновения. Оскорбленная, она вернулась назад, и моя сестра, услышав горькую правду о ее неудачной попытке вернуться к родителям, поступила иначе. Она была верующей (баптисткой) и постоянно ходила на собрания и дома, и в Германии.

Братья и сестры во Христе переправили ее сначала в Лондон, а потом в Монреаль, где она вышла замуж за беженца из-под Ковеля и родила троих детей. Вскоре община помогла им переехать в Лос-Анджелес к отцу мужа. (Следует заметить, что у баптистов и ранее, и теперь хорошо организована взаимопомощь.) Когда в 1970-х годах немецкое правительство выплачивало компенсации тем иностранцам, кто трудился в Германии во время войны, моя сестра отказалась от этих денег. Она хорошо отзывалась о своем набожном хозяине, поскольку ко всем трем батрачкам он относился, как к своим дочерям.

В 1955 году сестра прислала нам письмо, что она жива. Целый год мы боялись написать ответ, но в 1956 году большевики наконец-то разрешили переписку с заграничными родственниками, и я ответил. Мы знали, что все письма проверяются. Если в них находят что-то отрицательное (с точки зрения властей), то выбрасывают в корзину, а отправителей берут под контроль. Но сестра хорошо знала о тяжелой жизни в послевоенной Беларуси и без наших писем. Она не работала, но ее муж Павел (истинно верующий человек) понимал необходимость следовать заповедям Всевышнего и помнить о беднейших людях. Поэтому Катерина с мужем и другие верующие из их общины нам помогали, присылая посылки с одеждой и продуктами. Спасибо этим добрым людям! Да хранит их Всевышний и далее!

Сестра приезжала на родину дважды (по туристической путевке через Москву). Это было в середине 1970-х годов. О ее первом приезде мы не сказали маме заранее, поэтому их встреча после тридцати трех лет разлуки была очень эмоциональной. Они стояли посреди нашего двора в деревне Головчицы, гладили волосы друг друга и громко плакали от счастья.

Второй приезд был обусловлен тем, что у мамы случился инфаркт миокарда. Но они еще успели увидеться. Впоследствии у Катерины тоже были проблемы с сердцем, и она жива до сих пор только потому, что своевременно сделала шунтирование. В клинике Лос-Анджелеса это делают профессионально, с гарантией нормальной жизни на последующие десять и более лет.

В заключение хочу отметить, что и в Монреале, и в Лос-Анджелесе имеется обширная диаспора белорусов, оказывающая помощь своим соотечественникам.

**Иван КУЛИК, минчанин.**

SOS!

# Уратуем «Краязнаўчую газету»!

Усё менш дзён застаецца да заканчэння 2019 года, у які мы другі раз запар з ласкі ўлад адзначаем Год малой радзімы. Не ведаю, як іншыя, але я не заўважаў нічога такога пазітыўнага, адметнага ў праведзеных уладамі, грамадскасцю мерапрыемствах пад дэвізам ушанавання малой радзімы. Наадварот, даведаўся пра такое, што кінула мяне ў страшэнную роспач: у выдаўцоў «Краязнаўчай газеты» бракуе сродкаў на выданне двух апошніх нумароў за першыя шэсць месяцаў гэтага года. Фундатары, грамадскія арганізацыі не адгукнуліся на гэтую трывожную з'яву. Каб не пакрыўдзіць чытачоў, захаваць і надалей імідж такога крайне неабходнага, карыснага для нацыянальнага інтарэсу перыядычнага выдання, аўтар гэтых радкоў без усялякіх хістанняў перадаў на яе выданне 500 рублёў (мой месячны даход складае 550 рублёў), і газета справілася са сваім «планавым заданнем» на першае паўгоддзе Года малой радзімы, не падвяла сваіх падпісчыкаў.

З прычыны адсутнасці сродкаў «Краязнаўчая газеты» зладзіла для сябе вымушаны адпачынак на трэці квартал. Вось такім сумным, бязрадасным стаўся для нас другі па ліку Год малой радзімы. Мяне, як сталага чытача, аўтара і падпісчыка «Краязнаўчай газеты», страшэнна здзіўляе, што ў дзяржаўным бюджэце не хапае сродкаў для фінансавання (або – дафінансавання) газеты, якая так патрэбна не толькі індывідуальнаму чытачу, але і ўсім нашым навучальным, культурна-асветніцкім установам, упраўленням па ідэалогіі і працы з моладдзю ўсіх раённых выканкамаў Рэспублікі Беларусь. А колькі ж з гэтага бюджэту ідзе грошай на правядзенне рознага роду мерапрыемстваў, ад якіх проста нулявая карысць для нацыянальнага інтарэсу, а часам – нават і марная іх трата!

Сёння ж нам веды па краязнаўстве патрэбны, як ніколі раней. Іх не заменяць прафесійныя гістарычныя даследаванні, бо сярод іх аўтараў нямала такіх, з-пад чыйго пяра выходзяць творы, далёкія ад ісціны, якія да таго ж чыняць шкоду ў справе фарміравання ў людзях беларускай нацыянальнай свядомасці. Неўпрыкмет тады выйдзем на тыя нядобрай памяці часы, калі нашу выдатную асветніцу Еўфрасінню Полацкую грэбліва называлі «манашка», самаахвярнага змагара за святую беларускую справу Кастуся Каліноўскага – носьбітам ды абаронцам польскага інтарэсу, хвалілі расійскага палкаводца Аляксандра Суворава за задушэнне паўстання пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі… Такога не было і не будзе на старонках «Краязнаўчай газеты».

А ў адрозненне ад салідных навуковых прац па гісторыі Беларусі, дзе ўсё, як правіла, падаецца ў агульным, шырокім плане, з публікацый «Краязнаўчай газеты» чытач найчасцей даведваецца пра пэўную канкрэтную мясцовасць, без чаго нам не спазнаць, не палюбіць сваёй радзімы – як малой, так і вялікай, сваёй Дзяржавы. З гэтым у нас процьма праблем, і «Краязнаўчая газета» шмат рабіла па іх вырашэнні, абапіраючыся на самых актыўных сваіх чытачоў. Усцешна, што сярод іх ёсць і школьнікі – будучыня беларускай нацыі. А калі па невядомых прычынах агульнаадукацыйныя школы не з'ўляліся масавымі падпісчыкамі «Краязнаўчай газеты», дык у гэтым трэба бачыць сур'ёзны хіб, адно толькі шкоду.

Недаравальна, што пры такой вялікай на сёння колькасці адукаваных, улюбёных у Бацькаўшчыну людзей у нас ні дзяржава, ні грамадскасць не паклапаціліся пра стварэнне Краязнаўчага таварыства, якое дзейнічала нават у цяжкія ў эканамічным плане 1920-я гады і пазней у БССР. Такое няпростае ў многіх азначэннях сучаснае жыццё паказвае, што такое аб'яднанне нам патрэбна, як кісларод. Аднаўленне выдання «Краязнаўчай газеты», як нішто іншае, у стане паспрыяць і яго стварэнню. Таму, наша шаноўная грамада, паспяховыя ў сваёй справе бізнесмены, не заставайцеся ўбаку ад удзелу ў такой важнай агульнанацыянальнай справе, як выданне крайне неабходнай нашай Бацькаўшчыне «Краязнаўчай газеты»! Па-сур'ёзнаму задумацца трэба над гэтым і нашым уладам, каб не сапсаваць апошнія месяцы абвешчанага імі сёлета Года малой радзімы. Краязнаўчыя веды – гэта найкаштоўнейшае багацце гістарычнай памяці народа, незаменны сродак умацавання ягонай нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці, надзейная апора захавання этнакультурнай самабытнасці Бацькаўшчыны.

Нязменны з першага нумара «Краязнаўчай газеты» (красавік 2003 года) яе падпісчык –

**Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук.**

ИХ ДЕМОКРАТИЯ

## Johnson & Johnson оштрафовали на 572 миллиона долларов

Суд штата Оклахома обязал корпорацию Johnson & Johnson заплатить 572 миллиона долларов (!) по делу об опиоидном кризисе в США. Так в стране называют эпидемию зависимости от опиоидных анальгетиков и смертей от передозировки этих лекарств.

По данным американских властей, в 1999–2017 годах из-за опиоидной зависимости умерли почти 400 тысяч американцев. В 2017-м президент США Дональд Трамп объявил опиоидный кризис чрезвычайной ситуацией в сфере здравоохранения и создал комиссию по борьбе с ним.

В том же году генеральный прокурор штата Оклахома Майк Хантер подал иск против производителей опиоидных анальгетиков Teva Pharmaceuticals, Purdue Pharma и Janssen. Последняя – «дочка» корпорации Johnson & Johnson. Хантер утверждал, что эти компании преувеличивали эффективность своих лекарств и преуменьшали риск зависимости от них. В иске говорилось, что от опиоидной эпидемии в Оклахоме погибли не менее четырех с половиной тысяч человек. Власти штата оценили стоимость 30-летней программы борьбы с кризисом в 17 миллиардов долларов. Именно такую сумму Хантер требовал взыскать с фармацевтических компаний.

Purdue Pharma в марте 2019 года заключила досудебное соглашение с властями Оклахомы, обязавшись заплатить им 270 миллионов долларов. В мае на мировую пошла и Teva Pharmaceuticals, заключив сделку на 85 миллионов долларов. Johnson & Johnson решила идти в суд и стала единственным ответчиком по иску на 17 миллиардов долларов. Процесс начался 28 мая и длился почти три месяца.

В итоге суд уменьшил размер компенсации почти в 30 раз – до 572 миллионов долларов. Как пишет CNBC, инвесторы ожидали, что Johnson & Johnson могут обязать заплатить до пяти миллиардов долларов, поэтому после решения суда акции компании выросли более чем на 5%. При этом сама Johnson & Johnson с вердиктом не согласилась и пообещала его обжаловать.




Процесс против Johnson & Johnson в Оклахоме – первое в США судебное разбирательство о роли производителей обезболивающих в возникновении опиоидного кризиса. Всего местные власти в разных штатах США подали против фармацевтических компаний около двух с половиной тысяч исков. Ожидается, что их рассмотрение начнется в октябре 2019 года.

Для Johnson & Johnson это не самый крупный судебный процесс. С 2013 года в американские суды массово поступают иски из-за ее детской присыпки. Истцы утверждают, что тальк – основной компонент присыпки – содержал примеси опасного для здоровья асбеста и вызвал у них онкологические заболевания. В июле 2018 года суд присяжных в Миссури обязал Johnson & Johnson заплатить 4,7 миллиарда долларов по коллективному иску от 22 женщин, заявивших, что присыпка вызвала у них рак яичников (в декабре окружной судья оставил это решение в силе, компания пообещала обжаловать его). Всего из-за присыпки к Johnson & Johnson подали около 14 тысяч исков; большинство из них еще не рассмотрены.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Что делает полиция Германии в случаях домашнего насилия

*«Дойче Велле» выяснила, почему немецкая полиция обязана принять заявление о насилии в семье и как защищают жертв до начала судебного процесса.*



В Германии домашнее насилие не является само по себе уголовным преступлением, но его проявления уголовно наказуемы. В полицию, например, можно обращаться из-за семейных побоев, сексуального и экономического насилия, преследования и постоянного контроля, угроз и оскорблений в семье.

Каждая четвертая жительница Германии сталкивалась с насилием со стороны своего партнера. Это официальная статистика Министерства по делам семьи, пожилых граждан, женщин и молодежи ФРГ. В большинстве ситуаций преступники – мужчины. Только в Мюнхене за 2018 год поступило почти три тысячи заявлений о бытовом насилии, и в 80 процентах случаев подозреваемыми были мужчины. Благодаря работе полиции в Германии в прошлом году удалось предотвратить несколько убийств из-за семейно-бытовых конфликтов. Как работает эта система?

### Заявление обязаны принять

Во всех брошюрах, посвященных проблеме домашнего насилия, которые распространяют в немецких городах, сказано, что заявление от жертвы полиция обязана принять в любом случае. Дело в том, что в Германии есть принцип, по которому полиция принимает заявление при подозрении в совершении преступления. «На практике это означает, что у сотрудников просто нет возможности отклонить заявление, даже если ситуация неоднозначная», – объяснил в интервью DW представитель полиции Мюнхена Ральф Этцель. Заявления о домашнем насилии принимают в письменной или устной форме – не только лично, но и при помощи соседей или родственников. После этого в полиции выдают памятку о правах потерпевшего. Полиция проводит собственное расследование и передает дело в прокуратуру.

Когда жертва живет в зарегистрированном партнерстве, помолвлена или находится в браке с человеком, который проявляет насилие, она имеет право в любой момент отказаться от дачи свидетельских показаний. Дело приостановят и будут хранить несколько лет. Процесс могут возобновить, если жертва вновь обратится в полицию и в суд. Есть также возможность снять побои в клинике без подачи заявления в полицию. Если пострадавшая сторона все-таки позже захочет обратиться за помощью, она может предоставить этот документ.

### Запрет на контакт до суда

В Германии жертва может попросить о запрете на контакты и временное выселение обидчика из квартиры еще до начала судебного процесса. Если полицейские понимают, что опасность ей все еще угрожает, они сами могут принять такие меры – даже забрать ключи и на время выдворить из дома предполагаемого преступника. «Бывает, что соседи звонят в полицию и жалуются на шум или крики. На место приезжает наряд, предотвращает или регистрирует преступление и запрещает контакты с потерпевшей стороной», – пояснил Ральф Этцель. Речь идет не только о физическом контакте, но и о звонках, смс, письмах и якобы случайных встречах с жертвой.

Только за 2018 год мюнхенская полиция выдала более двух тысяч запретов на контакты и проживание в совместной квартире. В Баварии они могут действовать максимум 10 дней. В других федеральных землях действуют другие сроки, например, в Берлине – две недели. Предполагается, что за это время потерпевшая сторона обратится в суд и добьется через него таких же запретов уже на более длительный срок. Как и суд, полиция может запретить преступнику приходить в те места, где часто появляется объект его преследования, – возле ее работы, в детском саду, школе. Но если во время первых 10 дней жертва сама звонит или встречается с преступником, запрет на контакт автоматически перестает действовать.

Как правило, от момента подачи заявления в полицию до окончания судебного разбирательства проходит около года. При наличии серьезной угрозы можно добиться быстрого рассмотрения дела. По необходимости потерпевшая сторона может временно переехать в так называемое «женское общежитие» или пожить у родственников и друзей. В Германии при смене жилья в течение двух недель нужно получить новую прописку, и такие ситуации – не исключение. Но во время регистрации в другой квартире можно попросить о запретительной отметке: таким образом новый адрес другие люди смогут узнать только с согласия жертвы.

### Жертве помогают психологи

Психологи и соцработники могут бесплатно сопровождать несовершеннолетних и жертв особо тяжких преступлений или сексуальных изнасилований во время допросов в полиции и судебного процесса. Вообще каждый, кто пострадал от домашнего насилия, может запросить такую помощь, но не всегда ее предоставляют бесплатно – все зависит от конкретной ситуации. Помимо этого, по согласию жертвы насилия полиция связывается с местными кризисными центрами, где ее консультируют в том числе и по юридическим вопросам. Такие организации работают на нескольких языках и могут помогать потерпевшим даже по телефону или в анонимных чатах.

ТЕХНОЛОГИИ

## Музыкант сыграл на саксофоне во время операции на собственном мозге

*Любителей зарубежных медицинских сериалов, наверное, мало чем можно удивить: они привыкли к тому, что в киношных операционных каждую серию творится нечто из ряда вон выходящее. Однако и в реальности таких случаев предостаточно. Взять, к примеру, историю 25-летнего учителя музыки Дэна Фаббио, который во время операции на собственном мозге сыграл на саксофоне, пишет Digital Trends.*

Год назад у Дэна Фаббио, молодого учителя музыки школы Нью-Хартфорда, врачи обнаружили опухоль головного мозга. Новообразование затрагивало как раз ту часть, которая напрямую касалась его музыкальных способностей. Это означало, что малейшая ошибка или неверное решение врачей могли раз и навсегда лишить Фаббио главного в его жизни – музыки. Так началась подготовка к крупному исследовательскому проекту, в котором помимо медиков и самого Фаббио приняла участие профессор Элизабет Марвин из Истменской школы музыки. В ходе подготовительных работ хирурги воссоздали подробную 3D-карту мозга пациента и разработали серию тестов специально для Дэна. С их помощью в ходе операции можно было следить за тем, как работает мозг музыканта. Между тем задача Элизабет Марвин состояла в том, чтобы подобрать мелодию, которую Фаббио мог бы сыграть на саксофоне прямо на операционном столе. Одна из главных сложностей в этом задании – сам инструмент. Дело в том, что музыка в операционных звучит достаточно часто, только обычно это струнные инструменты, а в этом случае – духовой. Давление при выдохе и вдохе будет оказывать влияние на мозг. И вот настал «день X»: карта мозга Дэна была готова, а все моменты были продуманы до мелочей.

Во время операции Фаббио бодрствовал: он отвечал на вопросы и напевал мелодии, которые разучил заранее. Такой подход помогал врачам в режиме реального времени убедиться в том, что все идет по плану и ни одно из действий нейрохирургов не сказалось на функциональных возможностях пациента. Профессор медцентра Рочестерского университета Брэдфорд Мейон отметил, что для врачей важно, чтобы, покидая стены больницы, их пациенты могли вернуться к прежней жизни и, как раньше, заниматься тем, что они любят. Профессор также отметил важность 3D-проектирования карты мозга: организация мозга более-менее одинакова у всех людей, чего нельзя сказать о размещении областей, отвечающих за конкретные функции.

История закончилась хорошо: сразу по завершении операции Дэн Фаббио прямо на столе сыграл на саксофоне, сорвав аплодисменты публики. К слову, Дэн Фаббио уже полностью восстановился и вернулся к своему любимому занятию – обучению музыке. А в журнале Current Biology недавно вышла статья, описывающая операцию по удалению опухоли мозга у 25-летнего музыканта.

АРТ-ЖИЗНЬ

# Кремлевский фотограф из Минска

Как бы мы ни относились к тем или иным политикам, но сценарий эпохи пишут именно они. И те, кто создает их портреты, тоже становятся людьми известными. Такова логика жизни. Когда в 1918 году большевикам понадобилось явить миру изображение главы советской России, то первый художественный фотопортрет Ленина был заказан Моисею Наппельбауму, фотохудожнику родом из Беларуси. Потом его камера снимала Сталина, Дзержинского, Свердлова, Ворошилова, Буденного… Именно портреты Наппельбаума вошли во многие энциклопедии мира и учебники истории.



И все же имя мастера мы помним не только по этим фотокарточкам. Он создал тысячи великолепных психологических портретов культурной элиты XX столетия, среди которых Ахматова, Блок, Горький, Есенин, Плеханов, Уэллс, Пастернак, Мейерхольд, Уланова, Шостакович… Он был единственным фотографом, который снял мертвого Сергея Есенина в роковом номере гостиницы «Англетер», да еще с проводом в руках. В 1945 году Наппельбаум сделал в Москве фото Якуба Коласа. Эти портреты – золотой фонд искусства, и они впервые будут представлены на месячной выставке в Национальном историческом музее.

Наппельбаум родился в Минске, его дом находился как раз под железнодорожным мостом в районе улицы Московской. В школу он не ходил, довольствовался домашним образованием. Потом подростка отдали в ученики к знаменитому варшавскому фотографу, чье ателье работало тогда в Минске. Но Моисей, как только почувствовал, что освоил азы профессии, поехал путешествовать по миру и добрался даже до Америки. Но не остался там навсегда. Наппельбаум несколько раз возвращался в Минск, работал в нашем городе, его студия находилась в здании на проспекте аккурат напротив теперешнего МВД. Потом он купил еще помещение в доме, где теперь располагается магазин «Лакомка». Был востребован публикой. Но все-таки не выдержал губернской атмосферы, рванул в Петроград (совсем другие горизонты, а может, революционная романтика поманила?) и смог через некоторое время открыть там свою первую портретную студию.



Она стала настоящим творческим клубом, в стенах которого собиралась богема Серебряного века: Ахматова, Мандельштам, Блок, Гумилев, Сологуб, Клюев... У студии даже было название – «Звучащая раковина». А в 1918 году Луначарский привез Наппельбаума в Кремль, чтобы сфотографировать Ленина. И с тех пор Моисей Соломонович стал кремлевским фотографом, работал над портретами руководства СССР и депутатов съездов, даже получил ателье у Красной площади. В 1935 году Наппельбауму было присвоено почетное звание заслуженного артиста республики – уникальный случай в истории советской фотографии. Что, однако, не спасло его дочь от репрессий в 1950-х годах.

Выставка в Национальном историческом музее приурочена к 150-летию мастера.

**Виктория ДРОЗД.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Британские медики: миру угрожает очень агрессивный стрептококк

Причиной мощной вспышки скарлатины в Англии оказался новый штамм стрептококка А. Исследование показало, что он в девять раз агрессивнее обычных штаммов.

С 2014 года в Великобритании отмечается беспрецедентный скачок заболеваемости скарлатиной, и теперь ученые получили ответ на вопрос о том, с чем это связано. Оказалось, что основным виновником вспышки является агрессивный штамм стрептококка А.

Исследователи из Имперского колледжа Лондона проанализировали штаммы бактерий, которые распространялись в Англии и Уэльсе с 2014-го по 2016 год. Был обнаружен штамм Streptococcus pyogenes, который производил в 9 раз более мощный токсин скарлатины.

Как полагают авторы исследования, именно этим объясняется тот факт, что только в Англии в 2014 году количество заболевших скарлатиной достигло 15.000 человек, что составило абсолютный максимум с 1960-х годов. С тех пор число пациентов постоянно росло. К примеру, в 2015-м было зарегистрировано 17.000 случаев, а в 2016-м – уже 19.000.

Хотя сама по себе скарлатина не является очень серьезной болезнью, она способна вызывать тяжелые осложнения, включая пневмонию, артриты, болезни сердца и легких. Бактерии стрептококка А обычно живут в носу и горле. Они распространяются по воздуху через мельчайшие капли, когда инфицированный человек чихает и кашляет.



ТАМ, ЗА БУГАМ

## У Польшчы дамагаюцца пенсій для сабак

Пенсій у суседней краіне дамагаюцца для службовых сабак, якія задзейнічаны на службе ў пагранічных войсках.

З такім патрабаваннем да кіраўніцтва свайго ведамства звярнуліся апекуны сабак. У паведамленні гаворыцца, што сабакі знаходзяцца на службе па ахове граніцы каля 10 гадоў, а пасля іх, як правіла, забіраюць да сябе апекуны, альбо яны трапляюць у прытулак. Такое становішча польскія пагранічнікі лічаць несправядлівым у адносінах да сваіх чацвераногіх памочнікаў, а таму просяць аб выдзяленні пенсіі для іх у памеры 200 злотых (прыкладна 100 рублёў).

Яны канстатуюць, што ўтрыманне сабакі ў месяц абыходзіцца прыблізна ў 300 злотых (150 рублёў). Гэта сродкі на ежу, догляд і ветэрынара. Дарэчы, у мытнай і пажарнай службах Польшчы такая форма падтрымкі службовых сабак ужо існуе.

У памежнай ахове, паводле інфармацыі “Gazeta wyborcza”, зараз служыць 260 сабак, а ў паліцыі – звыш 900. Сярэдні тэрмін службы 8,5 года. Толькі за мінулы год са службы ў Польшчы пайшлі 104 сабакі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
17 ВЕРАСНЯ 2019 г.



АРТ-АБ'ЕКТ

# Каляровая вёска

*У Гродзенскім раёне на самай мяжы з Літвой знаходзіцца вёска Салацце. У апошнія гады яна стала незвычайнай дзякуючы таму, што там набылі лецішчы мастакі.*



Каваль, мастак і дызайнер Юрась Мацко каля аднаго з арт-аб'ектаў.

### Хацелася ажывіць вёску

На ўездзе ў Салацце, дзе асфальтаваная дарога пераходзіць у грунтоўку, да дрэва прымацаваны незвычайны арт-б'ект – вялікая прамысловая катушка, на якую намотваюць кабель. На ёй намаляваны прыгожы жучок. І надпіс: Салацце.

Вядомы гродзенскі каваль, мастак і дызайнер **Юрась Мацко**, які завабіў сюды сваіх калег для правядзення вясковых пленэраў, распавядае, што першыя думкі аб тым, каб неяк ажывіць вёсачку, якая раскінулася сярод балот, лясоў і азёраў, у яго з'явіліся больш за пяць гадоў таму.

«Сюды, як правіла, раней наведваліся пераважна паляўнічыя, рыбаловы альбо аматары збору грыбоў і ягад, – распавядае Мацко. – А каб прыехаць і адчуць тут харáство і гармонію мясцовай прыроды – такіх наведвальнікаў было няшмат».

Аднойчы знаёмы прапанаваў Юрасю забраць цэлы тузін прамысловых катушак ад кабелю: маўляў, выкарыстаеш у гаспадарцы. Мацко спачатку адмовіўся, але ўжо праз пару дзён спахапіўся. Мысленне мастака падказала, што з гэтага можна нешта зрабіць.

«Я тады параіўся з гродзенскімі мастакамі, якія ўжо мелі лецішчы ў Салацці: з **Вацлавам Рамашкам**, **Алесем Суравым** і **Сяргеем Кірко**, – наконт таго, як выкарыстаць катушкі для справы, – згадвае Мацко. – Некалькі творчых галоў падказалі, што можна іх ператварыць у арт-аб'екты і ўпрыгожыць вёску».

Яны аб'ехалі тады ўсё наваколле. Мацко згадвае, што быў уражаны тым, як яно пасуе для арт-аб'ектаў і наколькі гарманічна ўсё магло б выглядаць.

«Адразу патэлефанаваў у Мінск да знаёмых мастакоў, з якімі раней вучыўся і сябраваў, распавёў пра свае планы, і многія мяне падтрымалі, – кажа Мацко. – Далучыліся і гродзенскія мастакі, праўда, некаторыя паставіліся да гэтай ідэі скептычна».

### Першы блін не быў комам

Першы пленэр, як гэта заўсёды і бывае, адразу выявіў шмат пытанняў. Мацко і тыя, хто меў лецішча, пасялілі гасцей у сваіх дамах, трэба было гатаваць на ўсіх ежу і кожнага забяспечыць асобным месцам працы. А ўсяго ўзялі ўдзел у першым пленэры 11 мастакоў.

«Так, праблем было шмат, але якое было задавальненне, калі мы па ўсёй вёсцы расставілі размаляваныя арт-аб'екты са звычайных прамысловых катушах для кабелю! – згадвае Мацко. – Як высветлілася, наша ідэя спадабалася не толькі тым, хто браў удзел у пленэры, а і вяскоўцам і тым, хто проста з кошыкам ішоў з цягніка па ягады і грыбы».

Людзі спыняліся побач з вясковымі арт-аб'ектамі і не маглі ўцяміць, адкуль яны тут узяліся. Усе дарогі вялі да вядомага каваля, у двары якога таксама было што паглядзець. Было цікава даведацца, хто паставіў каля дарогі вялікую драўляную галаву Вітаўта, якую проста нельга абмінуць. Мацко распавядаў, што гэта яго праца.

Адкуль з'явілася Пізанская вежа ў двары аграсядзібы? Аказваецца, што гэтую працу зрабіў старшыня Саюза дызайнераў **Дзмітрый Сурскі**. А тыя вялікія босыя ногі пры самай дарозе і ўваходзе ў лес – праца гродзенца **Сяргея Грыневіча**.

«Для тых, хто ведаў гэтыя імёны, было цікава пабачыць новыя творы гэтых мастакоў. А тым, хто першы раз чуў пра іх, было карысна даведацца, што такія існуюць», – распавядае Мацко.

Праўда, ён памятае і каментарыі кшталту «Навошта яны заперлі мастацтва ў лес, як туды даехаць?!». Тым не менш цікаўнасць да незвычайнай экспазіцыі расла, пра яе напісалі СМІ, многія адмыслова прыязджалі з Гродна, каб сфатаграфавацца на фоне арт-аб'ектаў.

«Ужо пасля першага пленэру было відаць, як ажыла наша вёсачка, – кажа Мацко. – І галоўнае, што гэта спадабалася мясцовым людзям. Некаторыя дапамагалі нам усталёўваць работы на месцы, і адчувалася, што ў іх з'явіўся гонар: нічога падобнага ў іншых вёсках няма».

### Далей болей

Другі пленэр адбыўся на наступны год улетку. Справу паставілі на больш прафесійныя рэйкі ў плане арганізацыі. Да пленэру далучыўся мясцовы прадпрымальнік **Юрый Рэмша**, які мае тут сваю аграсядзібу. Ён размясціў мастакоў у сваім прасторным доме, наладзіў выдатнае харчаванне і амаль на кожны вечар запрашаў з Парэчча і Гродна артыстаў, якія ладзілі канцэрты, палілі вогнішчы і проста адпачывалі.

«Да нас пачалі прыязджаць вечарамі людзі з навакольных вёсак, а калі даведваліся, што адбудзецца канцэрт барда Шалкевіча, то прыязджалі і з Гродна. Незабыўныя былі вечары!» – згадвае Мацко.

Пасля другога і трэцяга пленэраў, у якіх удзельнічалі каля 20 мастакоў і ўжо не толькі з Мінска і Гродна, а і з Масквы, у цэнтры вёскі з'явілася поле цудаў з арт-аб'ектамі.

«Я заўважыў, што наша вёска змянілася, неяк выпрастала плечы, стала вядомай і пачала сабой ганарыцца, – кажа Мацко. – Местачкоўцы адкрыта пра гэта не выказваюцца, але я бачу, што ім гэта падабаецца, яны адчулі подых новага жыцця».

### «Нас заўважылі і запрасілі на пленэр у сталіцу»

Чацвёрты пленэр адбыўся ўжо не ў Салацці. Мацко распавядае, што іх запрасілі ў Мінск на пленэр, мэтай якога было ўпрыгожыць вялікі мэблевы гандлёвы цэнтр у Фрунзенскім раёне сталіцы.

Побач з вялікай мэблевай крамай паўсталі сем арт-аб'ектаў з прамысловых катушак для кабелю і звычайных паддонаў. Яны сталі своеасаблівай рэкламай для завабліванне пакупнікоў. Юрась Мацко лічыць, што ўсё ўдалося. На закрыццё пленэру прыязджаў кіраўнік Фрунзенскага раёна сталіцы і віншаваў іх з цудоўнымі творамі.

Што тычыцца Салацця, то ў наступным годзе, са слоў Мацко, чарговы пленэр мае адбыцца ў вёсцы. Раскрываць падрабязнасці мастакі пакуль не хочуць: маўляў, будзе сюрпрыз.

«Нам важна, каб пленэр прайшоў на высокім прафесійным узроўні. Гэта дазваляе кожнаму адчуць мастацтва, і яно насамрэч выдатна ўпісваецца ў наваколле», – кажа Юрась Мацко.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

СКАНДАЛ

# Дыверсія альбо ўласная ініцыятыва?

*Яшчэ аднаго беларускага спартсмена злавілі на ўжыванні допінгу.*

Адзін з лідараў зборнай Беларусі Кірыл Грышчанка не зможа ўзяць удзел у чэмпіянаце свету па барацьбе, які праходзіць у Нур-Султане. Спартсмен, які выступае ў катэгорыі да 130 кг і які выйграў золата на Еўрапейскіх гульнях у Мінску, не выйдзе на памост, бо ў яго арганізме знойдзена забароненае рэчыва.

Трэнерскі штаб зборнай у эфіры праграмы «Вынікі тыдня» канстатаваў, што прэпарат, які нібыта прымаў Грышчанка, даўно выйшаў з ужывання. Старшы трэнер нацыянальнай каманды Мікалай Багданёнак лічыць, што спартсмен не мог выкарыстаць гэты прэпарат, і настойвае, што мела месца дыверсія. Паводле яго слоў, ужо пачата ўнутранае расследаванне інцыдэнту.

А напрыканцы мінулага месяца грымнуў яшчэ адзін скандал: стала вядома, што славутая беларуская лёгкаатлетка Марына Арзамасава адхілена ад спаборніцтваў – у яе допінг-пробе таксама выяўлена забароненае рэчыва. Пра гэта паведамлялася на сайце незалежнага органа па кантролі за выкананнем антыдопінгавых правілаў.

У аналізах 31-гадовай лёгкаатлеткі знайшлі LGD-4033, адзін з селектыўных мадулятараў андрагенных рэцэптараў – рэчыва, якое адносяць да допінгу. Міжнародная асацыяцыя лёгкаатлетычных федэрацый прыняла рашэнне на гэтай падставе адхіліць Арзамасаву ад удзелу ў спаборніцтвах.

Нагадаем, што беларуска выйграла золата на чэмпіянаце свету ў Пекіне ў 2015 годзе ў бегу на 800 метраў, а годам раней яна стала першай на чэмпіянаце Еўропы ў Цюрыху на гэтай жа дыстанцыі.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

КРЫЖАВАНКА

# «Багаты хлебам беларускі край»



**Па гарызанталі:** 3.«Хлеб – знак любові і духоўнага багацця, // З тым і жыве пад сонцам ...» – з верша М.Курылы «Песня пра хлеб». 8.«Наш хлеб – жыцця ... , // Працяг і барацьба» – з верша П.Панчанкі «Хлебныя словы». 9.Стаўлянне на стол. 10.Канаўка на паверхні глебы, зробленая плугам. 13.Наказ (разм.). 14.Зерне да зерня, ... да ягады (прык.). 15.Травяністая агародная расліна, вострая прыправа да ежы, якая ведае ўсё на свеце (жарт.). 18.«З бульбы клёцкі, з бульбы ...» – з прыпеўкі да беларускай полькі. 19.Самастойная вакальная ці інструментальная п'еса. 22.Пасевы азімых культур. 23.«Хвалілі ... хлеб і старажытны , // Багаты хлебам беларускі край» – з верша Л.Геніюш «Хлеб». 25.Хлеб ды ... – маладзецкая яда (прык.). 29.На чорным полі белая ... родзіць (прык.). 31.«Раднейшага няма нічога ў свеце, // Як хлеб і ... , як ... і хлеб» – з верша Н.Гілевіча «Музыка і хлеб». 32.Віхравы бурны рух атмасферы. 33.Святкаванне заканчэння жніва, якое звычайна адзначалі на трэці, хлебны, Спас – 29 жніўня.

**Па вертыкалі:** 1.Беларуская страва з бульбы з мяснымі ці рыбнымі начынкамі. 2.Адзін сноп ці сто коп – хлеба на ... (прык.). 3.Кекс цыліндрычнай формы, насычаны ромам ці віном. 4.Дзяржанне ў прыладах працы. 5.Добры трэці ... – узімку будзе квас (прык.). 6.Самая святая ... – хлеб, самае святое імя – чалавек (казахская прык.). 7.Надышло Успенне – цягні бульбу за ... (прык.). 11.«Чаго варта ... , // Ты па дранікам мяркуй» – з верша М.Геца «Дранікі». 12.Прыйшла ... – стала поле чыстае (прык.); свята ... , ці Успенне, адзначалі 28 жніўня. 16.«Беларускай бульбе ... // Ходзіць шумна з краю ў край» – з верша В.Голуба «Бульба». 17.Горкая ... – ды хлеб салодкі (прык.). 20.Адэкалон, духі. 21.Бабка з дранай бульбы. 24.Тое, што і сені. 26.Плады, якія апалі ад ветру. 27.«Хлеб з новага жыта ўчыняла ...» – з паэмы А.Вярцінскага «Песня пра хлеб». 28.Калі ... на баране, тады і блін на рэшаце (прык.). 30.Зямельная мера ў некаторых краінах.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 3.Беларус. 8.Аснова. 9.Падача. 10.Баразна. 13.Указ. 14.Ягада. 15.Хрэн. 18.Каша. 19.Арыя. 22.Рунь. 23.Госці. 25.Вада. 29.Пшаніца. 31.Музыка. 32.Цыклон. 33.Дажынкі.

**Па вертыкалі:** 1.Калдуны. 2.Год. 3.Баба. 4.Асада. 5.Спас. 6.Яда. 7.Карэнне. 11.Гаспадыня. 12.Прачыстая. 16.Слава. 17.Праца. 20.Парфума. 21.Драчона. 24.Сенцы. 26.Апад. 27.Маці. 28.Пыл. 30.Акр.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

ФУТБОЛ

# Брэсцкае «Дынама» ідзе да залатых медалёў

*Прайшлі матчы 21-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: “Дняпро” (Магілёў) – “Тарпеда” (Мінск) – 0:3, “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – “Нёман” (Гродна) – 1:0, “Дынама” (Брэст) – “Мінск” – 3:0, БАТЭ (Барысаў) – “Гарадзея” – 2:1, “Славія” (Мазыр) – “Энергетык-БДУ” (Мінск) – 2:2, “Ісλач” (Мінскі раён) – “Шахцёр” (Салігорск) – 0:1, “Дынама” (Мінск) – “Слуцк” – 2:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 20 | 16 | 3 | 1 | 51–14 | 51 |
| БАТЭ | 19 | 15 | 1 | 3 | 40–11 | 46 |
| Шахцёр | 19 | 15 | 1 | 3 | 39–13 | 46 |
| Дынама (Мн) | 20 | 13 | 1 | 6 | 32–21 | 40 |
| Тарпеда-БелАЗ | 21 | 10 | 5 | 6 | 29–23 | 35 |
| Ісλач | 21 | 10 | 4 | 7 | 29–24 | 34 |
| Гарадзея | 20 | 8 | 6 | 6 | 21–20 | 30 |
| Слуцк | 21 | 7 | 5 | 9 | 21–34 | 26 |
| Славія | 19 | 6 | 5 | 8 | 23–28 | 23 |
| Нёман | 21 | 6 | 5 | 10 | 20–31 | 23 |
| Віцебск | 19 | 5 | 6 | 8 | 17–24 | 21 |
| Мінск | 21 | 4 | 8 | 9 | 26–34 | 20 |
| Энергетык-БДУ | 21 | 3 | 7 | 11 | 29–54 | 16 |
| Дняпро | 20 | 4 | 4 | 12 | 20–30 | 16 |
| Гомель | 20 | 3 | 6 | 11 | 31–38 | 15 |
| Тарпеда | 20 | 1 | 3 | 16 | 4–33 | 6 |

Фота: dynamo-brest.by.



РЭГІЁН

# Юныя футбалісты маюць свой інтэрнат

У Гродне адкрылі інтэрнат футбольнага клуба “Нёман” для выхаванцаў ДЮСШ з усёй вобласці.

Інтэрнат знаходзіцца паблізу стадыёна “Нёман”. У ім 30 нумароў для юных футбалістаў. Плануецца, што тут будуць жыць хлопцы, якія сур'ёзна займаюцца футболам і якім ужо споўнілася 13 гадоў.

Паколькі ўсе жыльцы інтэрната – выхадцы з розных гарадоў і вёсак Гродзенскай вобласці, вырашана пытанне аб тым, дзе яны будуць атрымліваць агульную адукацыю. Дзеля гэтага ўжо падпісана дамова з сярэдняй школай №2, якая мае спартыўны ўхіл. Для юных футбалістаў распрацаваны адмысловы графік школьных заняткаў з улікам дадатковых трэніровак.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ТЕАТРАЛЬНЫЙ ГИД

# Габриадзе в Минск не приедет. А вот Халезин появится

В следующую пятницу открывается Международный форум театрального искусства «ТЕАРТ», уже девятый по счету. В этом году он проходит под емким слоганом «Концентрат». Удастся ли у организаторов полностью оправдать его смысл? За две с половиной недели зрители увидят 15 театральных работ, созданных режиссерами из Беларуси, Германии, Грузии, Литвы и Франции. В программе 11 белорусских постановок и четыре международные. Конечно, паломничество будет на марионеточный спектакль режиссера, сценариста, художника, скульптора Резо Габриадзе «Сталинград». Лучший, по версии журнала «Нью-Йоркер» (2010), спектакль-реквием, спектакль-элегия соткан из воспоминаний Резо Габриадзе о последствиях Сталинградской битвы.

К сожалению, самого режиссера, автора культовых фильмов «Мимино» и «Кин-дза-дза!», на форуме не будет. Но, кажется, в Минске появится другой не менее известный у нас режиссер – Николай Халезин. Он приедет из Лондона, где обитает после 2010 года, чтобы показать свой спектакль «Дом №5», исследующий реальный жизненный опыт людей с ограниченными возможностями.

Один из главных белорусских литературных бестселлеров последних лет повесть «Радива «Прудок» Андруся Горвата лег в основу спектакля «ГЭТАМЫ» киевского режиссера Стаса Жиркова. Есть возможность сравнить эту постановку с той, что была сделана режиссером Романом Подолякой на подмостках Купаловского театра.



Среди хореографических спектаклей хочется обратить внимание на французский «Пиксель» хореографа Мурада Мерзуки. Эту постановку Национального хореографического центра Кретея и Валь-де-Марн и компании «Кефих» можно назвать диалогом двух миров: танца и визуального искусства. Как сказала менеджер фестиваля Линда Руденко, это уникальный синтез танца и 3D-графики, где реальное настолько убедительно переплетается с нереальным, что вы вряд ли сможете уловить момент, когда танцор оторвется от сцены и взлетит над зрительным залом.

Напомню, что бессменным организатором популярного фестиваля «ТЕАРТ» являются Центр визуальных и исполнительских искусств «АРТ Корпорейшн», ОАО «Белгазпромбанк» и ОАО «Газпром трансгаз Беларусь».

**Полина ЛУБНЕВСКАЯ.**

**На фото: хореографический спектакль «Пиксель».**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 16.09.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 160 экз. Заказ № 3047.

